Год V 1927. ЧЭРВЭНЬ. IV-ая кніжка.




Першый Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест.



ЦАНА асобнага нумару з дастаўкай да хаты 30 гр.

Друкарня С. Бэкэра Вільня. Субоч 2.

# Да чытачоў.

... „Што трэба зямлі чалавеку, што трэба навуку здабыць“.

Вось, паважаныя чытачы, некалькі слоў з нашага нацыянальнага гымну, укладваючы які, аўтар яго добра ведаў пры нашы патрэбы. „**Зямлі, Зямлі!**“,—вось што пачуеш цяпер перш-на-перш у нашай вёсцы. Гэты кліч лунае па ўсей Заходняе Беларусі, гэты кліч раздаецца з вуснаў, як маладога хлапца, гэтак і старога гаспадара. Дзе-бы і з кім-бы ня прышлося гаварыць пра палепшаньне спосабаў апрацоўкі зямлі, усюды пачуеш: „Дайце зямлі“!



І запраўды, ніхто ня можа пярэчыць, што наша вёска цяпер перaселена, што пытаньне аб зямлі ня губляе вагі і, трэба спадзявацца, што пры сучасных палітычных умовах, ня хутка і згубіць сваю актуальнасьць. Што мы беларусы, адвечныя жыхары сваей старонкі, пакрыўджаны „аграрнай рэформай“—гэта ня сэкрэт для кожнага, але што спадзявацца палёгкі ад яе ў будучыні, таксама больш, чым мала надзеі. Дык вось паўстае пытаньне: „Што-ж нам трэба рабіць“?

Нам трэба навуку здабыць,—адказвае нам наш гымн.

І калі зьдзейсьненьне першага нашага жаданьня знаходзіцца сягоньня ня ў нашай сіле, дык другое—залежыць толькі ад нас саміх, ад нашае актыўнасьці.

Час кінуць нараканьні і думку, што мы, сяляне, цёмныя і ня нам здабыць навуку, якой як-быццам не да твару пасяліцца пад сялянскай страхой. Думка гэта прыкрая, нараканьні гэтыя пахнуць паншчынай, калі за нас думаў наш „дабрадзей“, а ня мы самі. Нявера ў сябе, ў свае творчыя сілы—ёсьць згуба для нас.

Ці-ж вы думаеце, што ў сучасны мамэнт заўзятай барацьбы за сваё істнаваньне, пераможа той, хто ўмее толькі сьлёзы ліць ды наракаць? Ці-ж вы думаеце, што хтосьці

паклапоціцца аб нашым лёсе і выведзець нас з нашага ўбоства тады, калі мы самі яшчэ нічога ня робім для сябе і, як быццам, чагосьці чакаем?

Чаго?

Або мы ужо настолькі духова адсталі, што ня можам падняцца і скінуць з сябе наложаную на нас вякамі сьпячку? Або ў нас бракуе шчыра адданых справе нашага адраджэньня павадыроў-інтэлігентаў, каторыя сягоньня з вамі дзеляць усе злыбяды і каторыя вышлі з тэй-жа гаротнай вёскі, з якой і вы?—Не, гэтага ў нас усяго хапае, бо ведама ўжо ўсяму сьвету, што мы-беларусы і нацыянальна і сацыянальна сьвядомы і гэта зрабілі за кароткі час і пры самых няспрыяючых умовах! Але,назіраючы за нашым жыцьцём, за нашым рухам, усё-ж такі трэба сказаць, што для эканамічнага адраджэньня нашае вёскі мы яшчэ нічога ня робім, у той час, як нашы браты-беларусы на Усходзе гэтае пытаньне скранулі з мёртвага пункту, як нашы браты-ўкраінцы, каторыя сягоньня знаходзяцца ў аднолькавых з намі палітычных умовах, ужо таксама ўсходзяць на шлях адраджэньня, ствараючы свае каапэратывы, хаўрусы, сельска-гаспадарчыя, рамесьленыя, тэхнічныя школы і курсы і г. д.

**Час, час і нам узяцца за працу, за арганізацыю.**

Зараз-жа, не адкладваючы на доўгі час, мы павіны скарыстаць свае валасныя рады, ў якія шмат-дзе прашлі пераважна прадстаўнікі вёскі. І калі мы сумелі правясьці іх у нашы самаўрады, сумеем-жа і направіць працу іх у першую чаргу на перабудову нашага эканамічнага жыцьця. Мусім арганізованна дамагацца і стварацць свае сельска-гаспадарчыя школы і курсы, мусім арганізаваць свае земляробскія каапэратывы, мусім зараз-жа дамагацца праз свае валасныя самаўрады, каб Гаспадарственны Банк Земляробскі (Państwowy Bank Rolny) на льготных умовах удзяліў для нашай вёскі крэдыт на штучныя ўгнаеньні і каб гэты крэдыт сяляне маглі скарыстаць і дастаць бяз тых фармальнасьцяў, якія да гэтага часу істнавалі ў былых самаўрадах. Хай-жа прадстаўнікі нашае вёскі пакажуць, што яны разумеюць нашу вёску і яе патрэбы і апраўдаюць даверые сваіх выбаршчыкаў.

**РЭДАКЦЫЯ.**

# Чаму вучыць нас 1927 год.

Калі мінулы 1926 год даў частковы недарод, ад якога больш усяго пацярпела Віленшчына і прыблізна палова Наваградчыны, дык сёлета трэба ўжо было спадзявацца спачатку вясны, што недарод ахопіць усю Заходнюю Беларусь. Гэта якраз падцьвярждаецца карэспадэнцыямі чатачоў „Сахі“, каторыя з усіх куткоў нашае Бачькаўшчыны даносяць, што азімыя хлябы, хоць з-пад сьнегу вышлі і добрымі, але, дзякуючы сьцюдзенай і даждлівай вясьне, яны ў росьце запыніліся. Цяпер у жыце і пшаніцы на нізкіх і зьвязлых землях перавагу ўзяла гірса. Ярына ня была пасеена і пасаджана сваячасна, а там, дзе сяляне паруціліся з пасевам, насеньне шмат-дзе згніло і прыходзілсая ізноў адсяваць (другі раз сеяць). Трохі спачатку ў лепшых умовах былі сенажаці і палявыя травы, але і яны пацярпелі ад лішку дажджоў, бо нізкія месцы заліты вадой, якой ня было стоку.

Агулам стан хлябоў сягоньня можна лічыць на $2^1/_2$ [1]), а ў частцы Дзісеншчыны і Пастаўшчыны, дзе землі больш зьвязлыя, як напрыклад уздоўж ракі Дзісёнкі—2 і менш.

Але вось, да гэтага жудаснага зьявішча ў Заходняй Беларусі далучаецца яшчэ стыхійная катастрофа, якая разразілася над часткаю нашай старонкі. 12 і 14 чэрвеня двойчы пранёсься страшэнны ураганн ад паветамі: Наваградзкім, Слонімскім, Стаўпецкім, Лідзкім і часткаю Баранавіцкага. Сіла гэтага ўрагану настолькі вялікая, што, ня толькі зьнішчыла пасевы, зьністожыла шмат дабра, але забіла ды пакалечыла многа людзей і скаціны. Вялізарныя каменьні ўраган кідаў, як пёрачкі, пераносіў з месца на месца будынкі, старыя дрэвы вырываў з карэньнямі і падкідваў у паветра. Страты яшчэ не падаюцца падрахунку; па некаторым крыніцам даходзяць да 10 мільёнаў.

Ня трэба падкрэсьліваць, што наша і да гэтага агалочаная старонка стаіць перад відмам голаду. Ясна, што ратунку мы самі сабе без дапамогі звонку не дамо. Ніякая самаахвярнасьць беларускага жыхарства няшчасьцю не паможа. Трэба-зараз жа распачаць арганізацыю зборкі ахвяр для Заходняе Беларусіі за межамі. Верыцца, што Беларускае Т-ва Дапамогі ўявіць гэтае грознае зьявішча і выпаўніць свой абавязок перад Бацькаўшчынай. Верыцца, што таксама і ўсё беларускае грамацзянства дружна перад абліччам няшчасьця падтрымае Т-ва ў гэтай працы.

---

[1]) 5—надта добры
4—добры
3—здаваляючы
2—дрэны
1—надта—дрэнны

Але, змагаючыся з вынікамі гэтых страшэных і непрадбачаных зьявішч, мы павінны цяпер-жа падумаць, ці ня ёсьць спосабы ў будучыні ухіляць падобныя катастрофы?

Калі перад стыхійнай катастрофай земляроб сягоньня бязпомачны, дык для ліквідацыі вынікаў яе ў культурных заходніх краінах істнуюць арганізацыі, як страхавыя таварыствы ад граду, урагану, недароду і т. д. Гэтыя таварыствы ў час бяды часта толькі сваей уласнай акцыяй спраўляюцца з няшчасьцем. Ці ня час аб гэтым падумаць і беларускаму грамадзянству?

Што-жа тычыцца недароду, што выклікалі вясеньнія халады і лішак дажджоў, дык тут наш земляроб шмат сам сабе можа памагчы, аб чым будзе гутарка ў наступным нумары.

**У. Павалковіч.**

# Да рэжыму эканоміі ў вёсцы.

„Час—грошы", кажа амэрыканец. Мы часта гэтага ня ведаем і дарма трацім шмат часу. Возьмем такі прыклад. Вада ў нас знаходзіцца ў адлегласьці аднае вярсты. Кожны дзень мы няменш пяці разоў ходзім па ваду, два разы ганяем паіць скаціну і столькі-ж езьдзім конна на вадапой. А колькі дарма часу трацяць нашы жонкі, прастойваючы кожны дзень каля студні.

Наладзіўшы бочку, патрэбна было-б зьезьдзіць па ваду толькі адзін раз замест пяці. Такім чынам, можна зьберагчы шмат часу і скарыстаць яго больш карысна.

Цяпер возьмем яшчэ адзін бок нашага жыцьця. Мы ня ўмеем берагчы нашага багацьця і нават часта зусім яго не прыкмячаем. Напрыклад, часта дажджавая вада падыходзіць у наш хлеў пад гной і вымывае з яго гнаёвую жыжку. Такім чынам, самая карысная частка гною прападае дарма ў гаспадарцы. А некаторыя гаспадары нават самі спускаюць з хлява гнаёвую жыжку, каб сушэй было скаціне. Для скарыстаньня жыжкі неабходна, як мага больш подсьцілу, які будзе ўцягваць яе ў сябе. Не скарыстанага-ж подсьцілу ў гаспадара шмат валяецца. Шмат подсьцілу можна набраць і ў лесе. Можна для гэтае мэты ўжываць мох, апілкі, сухі торф і інш. [1])

[1]) Таксама можна пасярод хлява выкапаць і абцэмантаваць яму, у якую будзе сьцякаць жыжка. Гэту жыжку можна ужываць пад агародніну, дрэвы, сенажаці. Увага Рэд.

Начное золата—лепшае ўгнаеньне, таксама застаецца нескарыстаным. Далей возьмем нашы „рускія“ печы. Ад пачатку да канца коміны шмат дзе ніводнага звароту ў бок ня маюць. Усё цяпло ідзе ў неба. Цяпер, у час пабудовы новай вёскі, лішняя сотня цэглы на абароты цягі ў печы можа зьберагчы шмат дроў.

У вёсцы часта чуем—„зямлі мала, зямлі мала“, а паглядзіш, дык у яго валяецца шмат зямлі не скарыстанай. Каля будынку, на межах часта расьце быльлё, дзе маглі-б расьці кусты парэчак. У некаторых гаспадароў ёсьць пустыры, дзе расьце асот, лопух, палын, а гэтыя травы паказваюць, што тут з посьпехам можа расьці морква, капуста, буракі і нават канюшына. А нашы сялянскія папары?... але пра гэта будзем гаварыць асобна.

На вёсцы часта кажуць—няма „капіталу“. Капітал-жа ў гаспадарцы ёсьць—гэта зямля, але яго ня ўмеюць скарыстаць. Калі зямлю на зіму заараць, дык яна дасьць лепшы ўраджай:—капітал расьце. Калі-ж аставіць яе дзерваном, дык яна будзе ляжаць мёртвым капіталам.

Шмат трацім мы і на каровах, калі ня кормім па нормах. Багатае кармленьне—ратунак, а беднае—страта. Шкодна гаспадарцы вялікая featuring разнастайнасьць сартоў збожжа. Усе гэтыя сарты пры малацьбе часта пераміяняюцца і мы ня можам захаваць сартовага насеньня. Кожны сорт гэтага збожжа адымае шмат лішняга часу на засеў, прыборку і малацьбу. На гаспадарку трэба глядзець, як на камэрцыйнае прадпрыемства і заўсёды берагчы час і на ўсім трэба эканоміць і мы ў штодзённым жыцьці павінны помніць прыказку: „капейка—грошы, мінута—час“.

Сел. **М. Зьвераў.**

# Вынікі з працы Турскай дасьледчай станцыі.

Турскую дасьледчую станцыю (пад Рагачовам) цікавілі два галоўных пытаньні: павялічэньне ураджайнасьці поля і павялічэньне кармавых засобаў. З гэтаю мэтаю станцыя вывучыла розныя папары і розныя кармавыя расьліны.

За 1924 г. дасьледчая станцыя высьветліла, што занятыя папары карысны ня толькі ў параўнаньні з талочнымі, але і раньнімі, чыстымі. Гэты дасьлед падкрэсьлівае думку некаторых лепшых нашых гаспадароў, што пры нашых ўмовах віка-аўсяны папар у нас зьяўляецца незамянімым.

На зялёны корм самыя высокія ўкосы дае мешаніна пялюшкі (шэрага гароху) з вікай і аўсом у роўных частках

(12—14 пуд. на дзесяціну). Сэрадэля у чыстым пасеве пасьля бульбы ў працягу 4 гадоў давала ўраджай сена ад 200 да 400 пудоў з дзесяціны.

Назіраньні над зімовай воркай паказваюць, што яна вельмі важна пад бульбу, лубін, віку і др. яравыя збожжы.

З палявых расьлін больш аплачваюць гной бульба, жыта і віка. Гной аплачваецца вышэй на пясках пры вывазе яго ня больш 60 вазоў на дзесяціну, чаму гной трэба вывазіць паменш, але часьцей.

З раньніх гатункаў бульбы лепш удаваліся: „проф. Сіманоўскі" і „Кур'ер". З зімовых—„Вольтман" і „Рэйтан".

Па падліку станцыі сялянскі папар (талока) дае 35 пуд. сена з дзесяціны, у той час гэта самая дзесяціна дае вікі ці канюшыны 200 пуд, ці ў 6 раз больш.

Канюшыну дасьледчая станцыя лічыць за найлепшую кармавую расьліну, якая дае і ў дрэнныя гады ураджай сена ў 2 разы больш, чым заліўныя сенажаці. На высокіх узгорках канюшына рэдка калі ўдаецца, чаму гэту расьліну тут ляпей замяніць пялюшкай. Не ўдавалася чырвоная канюшына і на нізкіх мясцох, з блізкім стаяньнем грунтовых вод, а таксама на візінных пад'золах. На тарфяністых і нізкіх, але нянадта апад'золеных землях, лепш сеяць ружовую швэцкую канюшыну. На пад'золах лепш закладаць шматгадовыя штучныя сенажаці.

Гаспадарка дасьледчае станцыі ўвесь час вядзе барацьбу за выгоднае скарыстаньне корму. Заменай грубога саломістага корму бульбай і караньплодамі разам з макухай [1]) і мукой станцыя патроіла ўдоі кароў і карыснасьць каровы (кошт малака за вылічэньнем выдаткаў на корм). [2])

---

## Гутарка пра нашы сенажаці.

Ні адна галіна сельскае гаспадаркі не знаходзіцца ў такім заняпадзе, як нашы сенажаці. Ніву сваю наш селянін сяк-так абрабляе, час-ад-часу яе ўгнойвае, а сенажаць, бывае, бачыць толькі тады, калі яе трэба касіць. Штогод бяручы з лугоў пакосы і нічога не аддаючы ім назад у замен, мы прывялі іх да такога стану, што на нашых сенажацях, апроч моху, розных казлоў ды чарнагалоўкі, нічога не расьцець. І няма дзіва, што пры нашым малазямельлі і нядбалым даглядзе за сваімі лугамі, кармавое пытаньне ў нас

---

[1]) Мякінай.
[2]) Даныя ўзяты з Менскай сельска-гаспадарчае часопісі „Плуг".

штогод усё болей і болей дае сябе адчуваць, у сувязі з чым наша жывёлагадоўля—гэта адна з карыснейшых галін сельскае гаспадаркі—сягоньня ня можа нават акупіць кошту свайго ўтрыманьня.

Сенажаць—гэта дойная карова ў гаспадарцы. Проф. Kühn з Галі, добра знаёмы з сельскаю гаспадаркаю, кожны раз пры гутарцы пра сенажаці пачынаў са слоў: „Есьць трава—ёсьць малако і гной, ёсьць гной—ёсьць хлеб і грошы“.

Сколькі-ж мы маем добрых сенажацяў?—Сенажацяў у нас ёсьць даволі, але добрых вельмі і вельмі мала. Усе яны па прыроднай якасьці не такія ўжо і дрэнныя, каб на іх не зьвяртаць увагі. Даволі толькі прылажыць трохі працы, розуму, каб усунуць тыя прычыны, якія выклікалі іх зьдзічэньне, як хутка можна будзе ўбачыць вынікі нашае працы.

Сенажаці ў нас дрэнныя галоўным чынам ад двох прычын: ад недастачы ў грунце вады (травы для свайго ўзросту патрабуюць шмат больш вады, чым палявыя нашы расьліны), ці ад лішку яе. Бяручыся за паляпшэньне сваіх лугоў, гаспадар і павінен павясьці сваю працу ў гэтым кірунку, каб перш усунуць гэтыя галоўныя прычыны.

У гэтым нарысе перш мы разгледзім, як палепшыць сенажаці, якія не патрабуюць асушкі, дзеля чаго іх трэба і перш нам прывадзіць у культурнае становішча.

**Сухія лугі**, на якіх расьцець толькі мох ды другія неспажыўныя травы і страўныя расьліны (травы), часта бывае карысным абярнуць іх у ральлю. Калі гэтага па якімнебудзь меркаваньням зрабіць нельга, дык на такім куску ляпей залажыць штучны луг. Першая работа тут пачынаецца з ачышчэньня сенажаці ад кустоў і купін. Зрабіўшы гэту работу, луг трэба яшчэ ачысьціць ад моху і успульнуць залежаны і ўтоптаны верхні слой зямлі, чым мы дамо магчымасьць паветру, цяплу і спажыўной матэрыі пранікнуць да карэньняў лепшых лугавых траў і падняць іх жыцьцядзейнасьць. Гэтага можна дасягнуць баранаваньнем спэцыяльнымі лугавымі баронамі „Ляаке“ або „Аўрасоўскай бараной“, а калі іх няма—дык звычайнымі цяжкімі баронамі з вострымі жалезнымі зубамі. Першае забаранаваньне робіцца ўвосень і сенажаць барануецца да чорна. Выбаранаваны мох складаецца ў кучкі і, як прасохнець, паліцца і попел раскідваецца па лугу, ці звозіцца дамоў на падсьцілку ў хлявы. З мінэральных угнаеньняў уносяць тамасоўку каля 20 пуд. на дзесяціну і патасовую 30%, соль каля 10 пуд. і луг ізноў барануюць, каб парашкі зьмяшаць з зямлёй. Вясной, як толькі луг абсохнець, яго яшчэ раз барануюць, засяваюць лугавымі травамі і прыкатваюць калодай (катком).

Але бываюць выпадкі, што сенажаць так адзічала зямля на ей так зьляглася, што апісанымі мерапрыемствамі паляпшэньня значнага дасягнуць не ўдаецца. Тады гэтакую сенажаць прыходзіцца тымчасова абярнуць пад ральлю і гадоў цераз 4—6 засяваюць лугавымі травамі. Паднімаюць дзярніну на такой сенажаці не пазьней жніўня м-ца на глыбіню $1^1/_2$—2 вярш. Увосень, добра выбаранаўшы дзярніну, сенажаць аруць на поўную глыбіню. У першы год гэта сенажаць ідзе пад культуру лёну, пасьля здыйму якога дзярніну адварачваюць і пакідаюць пад авёс. На трэці год, калі зямля ня вельмі цяжкая, можна садзіць бульбу, ўнёсшы перад гэтым патасовай солі з разьлікам каля 15—20 пуд. на дзесяціну. На чацьверты год сеюць авёс з падсевам траў і астаўляюць гэты кусок пад штучны луг. Перад пасевам траў трэба абавязкава ўнясьці мінэральнага ўгнаеньня, бо ў праціўным выпадку ўся праца гаспадара і выдаткі на паляпшэньне сенажаці не дасягнуць сваей мэты.

**Лугавод.**

Канец будзе.

# Як самому сабе памагчы.

Каб мець са сваіх сенажацяў як найбольшы пажытак, нам трэба час ад часу паляпшаць травастой на іх, замяняючы дзікія травы культурнымі. Здаецца, прасьцей і лягчэй было-б гэта зрабіць, каб выпісаць пажаданыя і суадказныя нашым грунтам і кліматычным умовам гатункі насеньня лугавых траў. Але, прыглядваючыся да цэн насеньня гэтых траў, прыходзіцца прызнацца, што плаціць па некалькі злотаў за фунт мятліцы ці іншае травы—ня кожны гаспадар рызыкнець.

Вось, як-жа тут быць?

Нашаму гаспадару сенажаць абавязкава трэба палепшыць падсевам лепшых траў, а купіць іх цяжка.

Здаецца, што і тут, як і ўсюды, можна памагчы самому сабе. Назіраючы за нашымі межамі і лепшымі лугамі, можна знайсьці там амаль ня ўсе травы, насеньне якіх так дорага цэніцца нашымі фірмамі ў Вільні. Травы гэтыя месцамі так густа растуць у нас, што само гэта наводзіць на думку, каб іх зьбіраць, як яны высьпеюць і потым самому дабываць насенны матэр'ял.

З гэтай мэтай я ў 1925 г. сабраў насеньне дзікарастучых расьлін, (прыблізна па фунту) наступных траў: 1) Му-

рог—аўсяніца лугатая (Festuca pratensis), 2) Ежа (месцамі яе ў нас завуць „свойскай“, „псіўлюй“ (Dactylis glomerata L), 3) Мурава—мятлік лугавы (Poe pratensis L), 4) Пахучы каласок (Anthoxanthum odoratum L). 5) Мятліцца, мятлік, палявіца звычайная (Agrostis vulgaris), 6) Грабеньнік, грэбнік (Cynosurus cristatus L), 7) Лісахвост (Alopecurus pratensis).

Пры зьбіраньні насеньня траў важна, каб тут былі травы нізка і высокарастучыя, бо толькі ад такога падбору можна спадзявацца ўзяць з сенажаці поўны ўраджай.

Вясной у 1926 г. на бульбянішчы я пасеяў у пачатку траўня ячмень з падсевам насеньня сабраных траў кожны гатунак асобна, каб пры здыйму іх не зьмяшаць паміж сабой. Сёлета спадзяюся атрымаць сваё насеньне і гэтым ратаваць сваю кішень ад лішніх выдаткаў, а таксама залажыць у сябе штучную шматгадовую сенажаць.

**Селянін Пляхтур.**

Зьмяшчаючы гэты артыкул супрацоўніка „Сахі“, рэдакцыя горача заклікае чытачоў нашае часопісі і ўсіх сялян зьвярнуць увагу на гэты вельмі просты і некаштоўны спосаб дабываньня насеннага матэрыялу, што пры правільнай і акуратнай пастаноўцы яго, можа прынясьці бальшую карысьць для гаспадаркі. Гэтым спосабам можна ня толькі здавольніць свае патрэбы, але, збываючы насеньне на бок, яшчэ і зарабіць. Папыт і цэны на насеньне лугавых траў на нашым рынку кожны раз забясьпечаны.

# Дасьлед з абрываньнем цьвятоў на бульбе.

Ведаючы, што цьвяты і насеньне для свайго сфарміраваньня патрабуюць шмат каштоўных спажыўных частак з грунту, і гэтым задзержваюць поўнае разьвіцьцё расьліны, я зацікавіўся, як адклікнецца зрываньне цьвятоў на ўраджаю бульбы. У працягу 1925 і 1926 г. былі зроблены дасьледы на дьвёх аднолькавых лешках па 10 кв. саж. кожная з бульбай гатунку „Вольтман“. На кожную лешку пасадзіў па 17 ф. З аднэй ляхі цьвяты зрываліся ў той час, як толькі расьлінка выкідвала пупышкі, а на другой даваў бульбе магчымасьць сфармаваць насеньне. Ураджай бульбы —першая ляха дала 122 ф., а другая—119 ф.; розьніца—3 фунты з ляхі, ці 18 пуд з дзесяціны. У 1926 г. замест бульбы „Вольтман“ [1]), была ўзята бульба „Скарасьпелка“ [2]). Дасьлед даў наступныя вынікі: з першай ляхі (10 кв. саж)

[1]) „Вольтман“—гатунак бульбы позны.
[2]) „Скарасьпелка“—гатунак раньні.

атрымаў увосень 120 фун, а з другой, дзе цьвяты і насеньне не абрываліся—104 ф; розьніца 16 ф. з ляхі, ці 96 пуд. з дзесяціны.

У 1927 г. дасьлед пастаўлен адначасна з бульбай „Вольтман“ і „Скараспелкай“.

**Селянін Пляхтур.**

Пажадана было-б, каб дасьледчыя станцыі і полі больш зацікавіліся над пытаньнем: „Як адбіваецца на ураджаю бульбы зрываньне цьвятоў“.

**Рэдакцыя.**

# Як гнаць бярозавы дзёгаць.

Дзёгаць можна дабываць з карчоў і дроў іглістых парод, з кары асінавай і іншых лісьцяных парод, але з бярозавай кары (з бяросты) дзёгаць лічыцца найлепшым і ўжываецца нават на лякарства. З яго дабываюць мэдыкамэнты, як крэазот, крэалін і інш. За сваю масьлянiстасьць і здольнасьць прыдаваць скурам мяккасьць і захоўваць яе ад гніцьця, дзёгаць мае вельмі шырокі ўжытак у скурнай і шавецкай вытворчасьці.

Добры перша-гатунковы дзёгаць павінен быць масьлянстым, цёмна-бурага калёру з зеленаватым адлівам. Такі дзёгаць у гандлю завецца таварным і ідзе на прапітку скур.

Выганяць-жа дзёгаць надзіва простая справа. Лепш усяго гнаць дзёгаць з бяросты, абадранай з бярозы ад зямлі да 1—2 саж. Гэта бяроста гладкая і дае добрыя выхады дзёгцю. Вельмі тонкая бяроста з маладых бярозак мала прыгодна, бо яна вельмі карпаціцца, скручваецца ў трубкі і не дае добрых выхадаў дзёгцю. Але абдзіраць бяросту з дрэва—нялёгкая праца. Ляпей на выганку дзёгцю карыстацца карой з бярозавых дроў.

Загатаваўшы бяросту, бяруць два аднолькавыя гаршкі ці чугуны. Адзін чугун закопваецца ў зямлю, каб берагі былі роўна з зямлёй, а ў другі поўна напіхваюць бяросты. Чугун з бяростай кладуць угару дном на ўкопаны, а каб бяроста не выпадала з верхняга чугуна, паміж імі кладуць ці дзюравую патэльню ці ліст бляхі, ў якой робяць дзірачкі, каб дзёгаць мог сьцякаць у ніжні чугун. Прыладзіўшы ўсё гэта добра, шчыльна, усе шчыліны кругом добра замазваюць глінай, каб нідзе не прахадзіў дух. Увесь гэты апарат асыпаецца пяском і, на стаячы ўгару дном чугун, кладуць агонь. Ад жару з бяросты пачне

гнацца дзёгаць і сачыцца ў ніжні чугун. Ад добрага агню праз 1—2 гадзіны ўся бяроста launched пэратлее, а дзёгаць з яе адгоніцца і зьбярэцца ў споднім чугуне. Тады зьнімаюць верхні чугун, накладваюць бяросты і гоняць ізноў, як і першы раз. Прыблізна з 5—6 фунтаў бяросты пры такім простым спосабе выходзіць каля 1 фунта дзёгцю.

Трэба сказаць, што бяросту дабываць лепш усяго вясной. Зімой бяросты не адлупіш, бо яна прымярзае да дзерава. Летам з жніўня м-ца бяроста таксама прысыхае да дзерава і яе цяжка адарваць. Каб дабычу бяросты зрабіць рацыянальнай і ня шкодзіць гэтым лесу, трэба заўсёды помніць, што бяроста—гэта знадворная кара бярозы; калі асьцярожна і ўмела садраць яе, дык праз некалькі гадоў яна ізноў аднаўляецца і яе можна ізноў абдзіраць. Але кажуць вучоныя дасьледчыкі, што такая бяроста зьмяшчае менш дзёгцю. Абдзіраньне бяросты ня прыносіць шкоды бярозе толькі тады, калі праразаюць яе толькі да ўнутранай буравата-зяленаватай кары.

**М. Ш.**

---

# Як знайсьці месца, дзе можна капаць студню

Добрая студня ў гаспадарцы мае вялізнае значэньне нават і там, дзе не бракуе рэк, вазёр і ручайкоў. Вядома, што ў часы эпідэміі (пошасьці), рэкі і іншыя натуральныя крыніцы, скуль нашы сяляне бяруць ваду, носяць у сабе заразу, ад якой часта гінуць, як людзі, так і скаціна. Студня, калі яна ўдзержваецца па вымаганьню гігіены (навукі аб здароўі), часта можа ўсьцерагчы ад такога страшнага зла, як эпідэмія. Шукаючы месца, дзе капаць студню, гаспадар, каб не наразіць сябе на лішні кошт, мусіць ведаць, ці далёка ад паверхні стаіць вада, бо ў праціўным выпадку яму прыдзецца—або капаць студню вельмі глыбока, або і зусім не дастаць вады.

П. Станішэўскі ў „Газэце Гаспадарчай“ дае некалькі радаў, пры помачы якіх можна прыблізна судзіць аб блізкасьці вады. 1) Некаторыя травы любяць расьці пры блізкім стаяньні грунтовых водаў; да такіх траў належаць: хвашчы, казьліная барада, лісі хвост і шчаўё. 2) На ачышчаным ад траў і лісьця месцы ставяць на зямлі шклянку з сухой ватай уверх дном. Калі па 24 гадзінах вата і шклянка спацеюць, дык судзяць па ступені вогкасьці ваты аб блізкасці да паверхні вады. 3) Бяруць вілаватую галіну ляшчыны і нясуць каля зямлі. У тым мейсцы, дзе стаіць блізка вада, галінкі ляшчыны гнуцца да зямлі ў той ці іншай меры,

залежна, як далёка знаходзіцца ад паверхні вада. Даведзена, што для гэтай мэты найляпей надаецца ляшчына, але можна ўжываць і клён. 4) У Бесарабіі знаходзяць месца пад студню наступным спосабам: на ачышчаную зямлю кладуць аўчынку да гары воўнай. На аўчынку курынае яйко, а на яйко ставяць гліняны стаўбун, абмочаны вадой з сярэдзіны. Калі на другі дзень пасьля добрай пагоды аўчынка вогкая, дык лічаць, што вада ёсьць, але глыбока, калі-ж аўчынка сухая, дык вады саўсім няма, а калі аўчынка і яйко пакрыты расой дык гэта лічаць за прымету блізкага стаяньня жылы вады.

# Парады агранома.

**Пытаньне.** Ці варта баранаваць усходы аўса на пяшчанай зямлі і калі гэта трэба рабіць?

Падпішчык Самазванаў.

**Адказ.** Час для баранаваньня ўсходаў аўса мінуў. Найлепш гэту опэрацыю рабіць тады, калі на расьлінцы пакажуца два пёрышкі і не пазьней пачатку граненьня (кушчэньня) аўса. Баранаваньне ўсходаў аўса і іншых збожжаў робіцца з тэй мэтай, каб даць доступ паветру да карэнчыкаў расьлін, для чаго трэба ламаць корку. Корка зьяўляецца толькі на зьвязлых цяжкіх грунтах у часе гарачыні пасьля раптоўных дажджоў.

**Пытаньне.** Які севазварот завясьці нам у замен нашае трохпалёўкі?

Падпішчык Карэнька

**Адказ.** Парадзіць вам тут што-небудзь цяжка, бо перш трэба ведаць падрабязна ўсе ўмовы, пры якіх вы вядзяце сваю гаспадарку. Севазваротаў істнуе шмат, якія будзем з гэтага нумару асьветляць на старонках нашае часопісі.

**Пытаньне.** Ці варта абрываць лісьцё на капусьце і як гэта адбіваецца на ўраджаю яе?

Падпішчык С—н.

**Адказ.** Лісьцё ў капусты, як і ў кожнай расьліны, служаць апошняй не для формы і красы. Уся арганічная ма-

са расьліны—гэта прадукт працы зялёных лісьцяў. Абрываючы іх, мы ставім расьлінку ў такія ўмовы, пры якіх ня трэба спадзявацца, як гэта ўжо даведзена навукай, поўнага ўраджаю. Іншая справа, кале гаспадар абрывае пажаўцеўшыя і сухія лісьці, якія расьлінцы не патрэбны.

**Пытаньне.** Ці можна абсемяняць сенажаці насеньнем дзікарастучых на лугох траў і якіх?

**Адказ.** Глядзеце ў гэтым нумары артыкул: „Як памагчы самаму сабе"

**Пытаньне.** Якія ужываюць способы проціў рабакоў на садовых дрэвах?

Падпішчык С—ц.

**Адказ.** Добра спробаванай атрутай проціў рабакоў на дзерава зьяўляецца „Парыская зелень", якую можна дастаць у кожнай аптэцы. Парыскую зелень трэба разьвясьці з нягашанай вапнай у вадзе (1 ф. зелені, 2 ф. вапны на вядро вады) і спрыскваць дзерава з помачаю ранцавага апрыскваеля, працаздольнасьць якога—50—60 дрэў у дзень.

**Пытаньне.** Як трэба змагацца з мошкай на гародзе?

Падпішчык Савіч

**Адказ.** Калі тут пытаньне ідзе аб мошцы—земляной блысе, дык проціў яе можна ўжываць наступныя спосабы: 1) Пасыпаюць мокрыя ад расы расьлінкі, на якую напалі земляныя блохі, парашком табакі; 2) блохі ня выносяць засені і воўгкасьці (сырасьці), чым карыстаюцца для барацьбы з мошкай, ужываючы частае спрыскваньне сьцюдзенай вадой і зацяненьне ў гарачы час дня, прыблізна ад 10 гад. раніцы да 5 гадзін вечара; 3) месцамі з пасьпехам ужываюць для барацьбы з мошкай наступны спосаб: бяруць кавалак дошкі, уганяюць у яе дзеравяныя гвазды, змазваюць берасьцяным дзёгцем бакі яе і нясуць над расьлінкамі так, каб канцамі гваздоў кратаць расьлінкі. Зубы палохаюць мошку, ад чаго апошняя падскаквае і пападае на дошку з ліпучай мазьзю. Ужываючы гэты спосаб некалькі разоў, можна зусім зьнішчыць земляную блыху.

**Пытаньне.** Як асушыць балота, якой карыстаюцца некалькі суседніх вёсак?

Чытачы вёскі Агаркі.

**Адказ.** Арганізуйце меліярацыйнае таварыства, якому ўрад ідзе на дапамогу парадамі і крэдытам. Як арганізаваць таварыства—зьвярнецеся да свайго павятовага сэймiку.

## Паштовая скрынка.

**Сакалоўскаму Язэпу.**

Пісьмо Ваша атрымалі, ў каторым паміж іншым Вы скардзіцеся на адміністрацыю „Сахі", што яна... „ня ідзе на сустрэчу патрэбам вёскі і апошня ў пацёмках шукае новых лепшых шляхаў да паляпшэньня сваей гаспадаркі. Між тым „Саха" магла-бы ў гэтым зрабіць шмат, бо зацікаўленасьць „Сахой" паміж сялян ёсьць і яна піша зразумелай для вёскі мовай і пра цікавыя пытаньні... Шкода, шкода, што адміністрацыя „Сахі выслала нам адзін нумар, а потым высылку часапісі спыніла"... Шкадуеце Вы і Ваша вёска, шкадуе і рэдакцыя „Сахі", што Вы да гэтага часу ня прыслалі падпіскі, бо пры ўсім нашым шчырым жаданьні ісьці на сустрэчу Вашым патрэбам, дарма „Саху" высылаць усё-жтакі ня можам, бо часопісь выдаецца толькі на сродкі падпішчыкаў. Здаецца, Вы больш прынясьлі-б сваей вёсцы карысьці, каб замест скардзіцца на „нячуласьць" рэдакцыі да патрэб вёскі, намовіць апошнюю зложыцца па грошу выпісаць „Саху", якой, пэўне не закінеце ўкору, што яна перасьледуе мэту нажывы. Процiў гэтага красамоўна кажа баечна-нізкая цана часопісі.

Калі-б Вы больш уяўлялі сабэ пра матэрыяльнае становішча „Сахі", дык, жадаючы хутчэйшага эканамічнага адраджэньня нашае гаротнае старонкі, самі выпісалі-б і другім раілі-б гэта зрабіць.

**Стацьку, Карачаю і іншым.**

Пробныя нумары „Сахі" высылаем, а надалей будзем высылаць толькі па атрыманьні падпіскі.

**Мікуле Янку.**

„Саха“ ад „Беларускага Дня“ не залежыць і роўна з ім ня мае нічаго супольнага, як роўна і ня будзе мець.

**Наватару.** Стацьцю Вашу „Што трэба рабіць селяніну вясной на полі“ атрымалі, але зьмясьціць ня можам, бо 1) сэзонныя артыкулы трэба прысылаць загадзьдзя і 2) Ваша стацьця ня мае нічога для сялян цікавага. Селянін наш больш, як 1000 гадоў ведаў, што зямлю вясной трэба араць, потым сеяць насеньне і забаранаваць яго. Пішэце больш цікавыя артыкулы, скарыстаем.

# Да Беларускага Грамадзянства.

Цяжкія гаспадарчыя варункі сялян вясною наагул, а тым больш у гэтым позьнім годзе, змушаюць адных сялян прасіць аб прыняцьці ў лік сяброў Банку і аб выдачы ім пазыкі, а другіх, якія раней атрымалі і падышоў ужо тэрмін іх сплаты, пазбаўляюць магчымасьці зьвярнуць гэныя пазыкі ў вызначаны тэрмін. Такім чынам, для Банку стварылася няпрыемная становішча, калі ён ня мае магчымасьці выдаць пазыкі сваім новым сябром.

Наглядная Рада і Управа Банку, якія разглядалі створаныя варункі на сваім сумесным паседжаньні 30 траўня г. г., пастанавілі: зьвярнуцца з заклікам праз прэсу да сяброў Банку з просьбай аб акуратным звароце даўгоў, дзеля таго, што акуратны зварот даўгоў зьяўляецца падставай нармальнага жыцьця і развіцьця Банку. Адначасна Наглядная Рада і Управа Банку заклікаюць тое Беларускае Грамадзянства, якое мае вольныя грошы ўносіць іх на рахоў у свой Банк на працэнты. Узносы прымаюцца ў злотых і далярах, злотыя перарахоўваюцца ў даляры і зьвяртаюцца ў далярах, або ў злотых па курсу даляра.

**Беларускі Коопэратыўны Банк у Вільні. Тав. з агран. адказн.**

# Да Грамадзян.

Каб уявіць велічыню недароду, што ужо прадбачыцца ў гэтым годзе, а таксама і страты ад урагану, Рэдакцыя „САХІ“ горача заклікае беларускае грамадзянства надсылаць з усіх куткоў Заходняй Беларусі ў рэдакцыю весткі аб ураджаю на паказанай тут форме.

Ураджай надта добры абзначаць лічбай—5, добры—4, здаваляючы—3, дрэны—2, надта дрэны—1. Пажаданна, каб данныя адказвалі запраўднаму стану ўраджаю.

| Якое збожжа | Які быў ураджай у 1926 г. | Які прадбачыцца ў 1927 г. | Час пасеву збожжа | Ці быў адсеў збожжа | Як азіміна вышла з зімы | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | | | | | | |
| Пшаніца | | | | | | |
| Авёс | | | | | | |
| Ячмень | | | | | | |
| Віка | | | | | | |
| Гарох | | | | | | |
| Боб | | | | | | |
| Канюшына | | | | | | |
| Сэрадэля | | | | | | |
| Лубін | | | | | | |
| Сенажаці | | | | | | |

Вёска, павет, воласьць, прозвішча і імя надсылаючага.

Дата, ці якім днём і месяцам зьбіраны данныя.

Выдавец сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ.